Франц Сіўко

# ФАБРЫКА МІЖРЭЧЧА

## АД ПАПЕРНІ ДА ВАДАСПАДА

Віцебск
ВДУ імя П. М. Машэрава
2024

УДК 821.161.3-32
ББК 84(4Беи)6-44
С41

Р э ц э н з е н т :
загадчык кафедры гісторыі і культурнай спадчыны
ВДУ імя П. М. Машэрава, кандыдат гістарычных навук, дацэнт *А. М. Дулаў*

На вокладцы:
плаціна ў Міжрэччы. 1956 г.

**Сіўко, Ф. І.**

**С41** Фабрыка Міжрэчча : ад паперні да вадаспада / Франц Сіўко. – Віцебск : ВДУ імя П. М. Машэрава, 2024. – 40 с.

ISBN 978-985-30-0162-4.

На мяжы XIX–XX стагоддзяў прыкладна дзесяцікіламетровая адлегласць ніжняга цячэння ракі Вяты, левага прытока Заходняй Дзвіны, змяшчала шэсць вадзяных прадпрыемстваў. Найбольш вядомае з іх – паперня (пазней – млын, затым – гідраэлектрастанцыя) у фабрычным пасяленні (асадзе) Міжрэчча. Гісторыі яго з'яўлення і зменам профіляў вытворчасці і, адпаведна, трансфармацыям назвы прысвечана гэтае ілюстраванае эксклюзіўнымі фотаздымкамі выданне.

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)6-44**

**ISBN 978-985-30-0162-4**

Лішне нагадваць, як важныя ў вывучэнні гісторыі любога краю артэфакты яго матэрыяльнай культуры. Не выключэнне ў гэтым сэнсе і даўніна калісьці гаманкога, шматлюднага рэгіёна ніжняга цячэння ракі Вяты[1] – маляўнічага кутка Мёршчыны прыкладна на паўшляху паміж знакамітымі старасвецкімі мястэчкамі Друя і Лявонпаль. Прудніцкае гарадзішча XVI стагоддзя, сядзібы ў Аблятове, Міжрэччы і Устжэжы часоў уваходжання тутэйшых земляў у склад Рэчы Паспалітай, фабрыкі па вырабе паперы з асіны (пазней – млыны) у Міжрэччы і Аблятове, млыны ў Павяцці, Рачнёве, Юзафове[2], Сташулях[3], капліца Святога Яна Хрысціцеля[4] і рэшткі польска-латвійскіх памежных слупоў амаль стогадовае даўніны ў вёсцы Вяце – усё гэта каштоўныя сведкі мінуўшчыны, без асэнсавання гісторыі якіх немагчымае праўдзівае адлюстраванне гісторыі краіны.

На жаль, са згаданых цікавостак гэтага некалі шчыльна населенага ўскрайку памежнае Віцебшчыны мала што захавалася. Нешта згублена падчас ваенных падзей ды паваенныхпературбацый, да нечага стыхія аказалася незычлівай, нешта стала ахвярай людской неразумнасці і сквапнасці. Пісьмовыя ж сведчанні пра колішняе грамадска-палітычнае і побытава-гаспадарчае ўладкаванне краю калі і захаваліся, дык з розных прычын нават хаця б збольшага дагэтуль, на жаль, не даследаваныя. І калі б не працы Міраслава Задоры-Цішэўскага[5], які пакінуў для нашчадкаў падрабязныя запісы пра тутэйшае жыццё міжваеннага часу, ды шчыраванні мёрскага краязнаўца Вітольда Ермалёнка[6], многае і наогул, напэўна, засталося б страчаным незваротна.

На сёння самым вядомым з аб'ектаў матэрыяльна-гаспадарчай спадчыны ніжняга цячэння ракі Вяты, а ў пэўным сэнсе – нароўні з ландшафтным заказнікам “Ельня” ды іншымі адметнасцямі раёна – і візітоўкаю Мёршчыны з'яўляецца так званы Міжрэчанскі вадаспад (фота 1), рукатворны напамін пра варункі жыццядзейнасці некалькіх пакаленняў жыхароў мясціны за тры

[1] Рака Вята – левы прыток Заходняй Дзвіны даўжынёю каля 31 кіламетра. Ад вытоку ля вёскі Пераброддзе да возера Шчоўна называецца Харабpоўкай.
[2] Юзафова – колішні хутар з дзвюма хатамі і пятнаццацю жыхарамі на ўскрайку балота ля вёскі Сташулі.
[3] Апроч названых, у наваколлі меліся млыны ў Багданаве на рацэ Мёрыцы, Ільмовіках на рацэ Волце і два ў цэнтры гміны (воласці) – мястэчку Лявонпаль.
[4] Капліца (касцёл) Святога Яна Хрысціцеля – драўляны рыма-каталіцкі храм, пабудаваны ў 1932–1934 гг., па пераходзе вёскі Вяты паводле рашэння духоўнага суда з друйскай парафіі ў лявонпальскую.
[5] Міраслаў Эпіфан Задора-Цішэўскі (1889–1964) – вядомы гаспадарнік Дзісеншчыны і Браслаўшчыны міжваеннага часу польскага паходжання. Аўтар успамінаў пра маёнткі ў Міжрэччы, Узмёнах, Балтруках, фальварку Навіна і іншых мясцовасцях цяперашняй Мёршчыны. Менавіта паводле яго сведчанняў падаюцца асобныя артыкулы пра гэтыя мясціны ў розных крыніцах, напрыклад, у 4 томе польскамоўнага выдання Рамана Афтаназі “Гісторыя рэзідэнцый на былых межах Рэчы Паспалітай”, прысвечаным рэгіёну тадышняга Віленскага ваяводства.
[6] Ермалёнак Вітольд Антонавіч (нар. у 1954) – гісторык, краязнавец, педагог. Даследчык даўніны Мёршчыны.

кіламетры ад утоку водаў звілістай Вяты ў самавітую Дзвіну, якая ў тым месцы ўжо называецца на супрацьлеглым, латвійскім беразе Даўгавай.

Але пад найменнем вадаспада гэты аскепак гідратэхнічнай думкі колішняй сельскай прамысловай галіны, а цяпер аб'ект турысцкага паломніцтва Прывяцця фігураваў не заўсёды. Назва была штучна прычэпленая да месца і стала ўвасабленнем магчымасцяў актыўнага адпачынку напрыканцы 1990-х гадоў, калі сюды літаральна рынуліся з розных куткоў Віцебскай вобласці, Беларусі і нават замежжа натоўпы аматараў бавіць вольны час на прыродзе.

Аўтэнтычная ж яго назва – Фабрыка Міжрэчча. Так рэпрэзентуецца яно ў старых крыніцах, напрыклад, у спісе парафіянаў Ідоўтаўскага касцёла 1928–1930 гадоў[7] (па-польску – Fabryka Międzyrzecz, фота 2) або ў тагачасных спісах назваў мясцовасці, дзе падаецца з пазнакаю-скаротам os. fabr. (osada fabryczna – фабрычная асада[8]) Międzyrzecz.

А вось паваенныя жыхары вёскі Міжрэчча (мясц. – Мізарэча), на сённяшні дзень ужо зніклай, што знаходзілася адсюль прыкладна за кіламетр вышэй, супраць цячэння ракі Вяты, называлі яго Устжэжам, паводле назвы аднайменнага маёнтка, што месціўся ад фабрыкі (мясц. – фабаркі) крыху менш за кіламетр ніжэй, па цячэнні ракі, амаль насупраць вёскі Пруднікі. Да Устжэжа прылічвае яго ў сваёй працы "Мае ўспаміны з Браслаўшчыны. 1918–1939 гг.", відаць, з увагі на сваяцтва ўладальніцы тамтэйшага маёнтка і гаспадара паперні, і М. Задора-Цішэўскі (фота 3). Так што апроч Міжрэчча з усіх навакольных даўнейшых населеных пунктаў калі б якое і магло прэтэндаваць на наданне свайго імя месцу знаходжання фабрыкі, а значыць і цяперашняга вадаспада, дык гэта Устжэжа.

Што ж да складніка Міжрэчанскі ў назве вадаспада, то крыніц з пацвярджэннем яго правамоцнасці больш як дастаткова. Гэта і той жа спіс парафіянаў Ідоўтаўскага касцёла 1928–1930 гадоў, і афіцыйная назва адчыненай тут у 1947 годзе Міжрэчанскай гідраэлектрастанцыі, і дакументы жыхароў тутэйшага пасялення, напрыклад, членская кааператыўная кніжка Альжбеты Анашкі 1948 года ці пасведчанне аб нараджэнні Ірыны Аўсюкевіч 1960 года (фота 4), і пагаспадаркавая кніга вёскі Устжэжа

[7] Спіс парафіянаў Ідоўтаўскага касцёла 1928-1930 гг. – адзін з рукапісаў парафіяльных актаў, знойдзеных краязнаўцам В. Ермалёнкам улетку 2021 г. у закінутай хаце вёскі Мілашова.

[8] Асада (гіст.) – пасяленне, сядзіба асадніка, польскага пасяленца-каланіста на заходнебеларускіх, пераважна памежных землях.


Fabryka Międzyrzecz
Koziełł-Poklewski | Władysław | 65
" " | Kazimierz | 29
Służba: Szarkiel | Stanisław | 29
ż. z Łakotków | Franciszka | 24
Sorocyńska | Anna | 39

*Козел-Паклеўскі Уладыслаў (65 год),*
*Казімір (без прозвішча, хутчэй за ўсё таксама з роду Козел-Паклеўскіх, 29 год);*
*абслуга: Шаркель Станіслаў (29 год) з жонкаю Францішкай з роду Лакоткаў (24 гады),*
*Сарачынская Ганна (39 год).*

▲

Фота 2. Спіс парафіянаў пасялення Фабрыка Міжрэчча
ў зборы парафіяльных актаў Ідоўтаўскага касцёла 1928–1930 гг.
і яго пераклад на беларускую мову

wioskach, wszędzie lubiany i dobry kompan. W Ustrzeżu właścicielem papierni i młyna był Władysław Koziełł-Poklewski stary kawaler *ex Arkon*, kulturalny, złośliwie dowcipny. Pracownikami u niego byli Szadziewscy i Hryniewicz uchodźcy z Witebszczyzny, należący do bogatszej i wykształconej szlachty zaściankowej, pracowici i bardzo uczciwi.

*Ва Устжэжы ўладальнікам паперні і млына быў Уладыслаў Козел-Паклеўскі, стары кавалер ex Arkon, культурны, зласліва-дасціпны. Работнікамі ў яго былі Шадзеўскія і Грыневіч, бежанцы з Віцебшчыны, з заможнай і адукаванай засцянковай шляхты, працавітыя і вельмі добрасумленныя.*

▲

Фота 3. Фрагмент тэксту з кнігі М. Задоры-Цішэўскага
са згадкаю пра паперню ва Устжэжы
і яго пераклад на беларускую мову



ПАСВЕДЧАННЕ АБ НАРАДЖЭННІ

СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ

Гр.

Гр. Ирина Анатольевна

нарадзіўся (лася)

родился (лась)

первого января тысяча девятьсот шестидесятого года

Месца нараджэння дзіцяці: горад, сяло

Место рождения ребенка: город, село

раён

Фота 4. Фрагмент пасведчання аб нараджэнні жыхаркі пасялення Міжрэчча Ірыны Аўсюкевіч. Са збору І. Варанцовай

за 1949–1951 гады[9], дзе месцам працы памольшчыка[10] Антона Анашкі (нар. у 1930, жыў разам з бацькамі ў фабрычным пасяленні, фота 22) называецца Міжрэчанскі млын (у арыгінале па-руску – Междуреченская мельница).

У друкаваных выданнях і ў сеціве назва часам гучыць так: вадаспад на рацэ Вяце. Гэта правільна, аднак, раз-пораз пракідаюцца і такія няслушныя назвы, як вадаспад у Суромшчыне (Вяце, Прудніках, Александрыне). І нават, як, напрыклад, у прысвечаным Мёршчыне раздзеле кнігі “Гарады і вёскі Беларусі” 2019 года выдання, – у Мёрах. Што прыкладна тое самае, як прыпісаць купалаўскую сядзібу ў Ляўках Оршы або Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча – Шаркаўшчыне.

Вадаспад – Міжрэчанскі, і назва гэтая выклікаць сумневу не можа. А вось на тое, што часам блытаніна адносна назвы месца ўзнікае з-за ідэнтычнасці яго назвы і назвы вёскі паблізу, звярнуць увагу варта. Маёнтак (двор) і вёска Міжрэчча і пасяленне (асада) Фабрыка Міжрэчча, месца знаходжання цяперашняга вадаспада, – розныя геаграфічныя пункты, якія ад самага з’яўлення фабрыкі належалі прадстаўнікам аднаго і таго ж роду Святаполк-Мірскіх. Як ужо згадвалася, адлегласць паміж імі складае прыкладна кіламетр.

Першаю з дасяжных (праўда, ускосных) крыніц адносна фабрычнае асады Міжрэчча з’яўляецца рукапіс успамінаў усё таго ж М. Задоры-Цішэўскага пра двары, дворкі і вёскі Дзісенскага і Браслаўскага паветаў 1921–1944 гадоў[11]. Размо-

[9] Пагаспадарказая кніга вёскі Устжэжа за 1949–1951 гг. – кніга запісаў пра асобаў і гаспадаркі вёскі. Захоўваецца ў Занальным дзяржаўным архіве ў г. Глыбокае. Месцам жыхарства сям’і Анашкаў Устжэжа названае тут памылкова.

[10] Памольшчык – работнік млына, які займаецца памолам збожжа.

[11] Zadora-Ciszewski Mirosław. Wspomnienia. Rolnictwo. Dwory, dworki i wsie pow. dziśnieńskiego i brasławskiego w latach 1921–1944 / Mirosław Zadora-Ciszewski // Pamietniki i listy polskich autorów z Ziem Zabranych 10 BN (BN – Biblioteka Narodowa w Warszawie). – sygn. akc. 12723.




Фота 5. Мапа мясцовасці (выгляд зверху): 1 – плаціна; 2 – фабрыка; 3 – хата пры фабрыцы; 4 – стайня; 5 – хата Станіслава Анашкі; 6 – дарога ў накірунку вёскі Суромшчыны; 7 – дарога ў накірунку былога хутара Навінкі і вёскі Александрыны

ва пра ўзвядзенне Віктарам II[12] Святаполк-Мірскім на зямлі, выдзеленай яму бацькам Віктарам I (1820–1892), першым уладальнікам маёнтка Міжрэчча з роду Святаполк-Мірскіх па імі Віктар, двара Устжэжа прыкладна за крыху больш як паўтара кіламетра ад Міжрэчча ў накірунку Дзвіны.

А вось пра акалічнасці пабудовы паблізу новапабудаванага двара папяровае фабрыкі ў рукапісе наўпрост не ўзгадваецца. Існуе меркаванне, што пабудаваў яе ўсё той жа Віктар II (нар. у 1845?[13]). Згодна ж з іншым меркаваннем, будоўлю наогул ажыццявіў не хтосьці з Віктараў, а пляменнік Віктара II Альгерд Аскерка (1890–1955), сын апошняй гаспадыні двара Міжрэчча Ядвігі Аскеркі (1862–1940) з таго ж самага роду Святаполк-Мірскіх. Пра што (зноў жа ўскосна) можа быццам бы сведчыць, з увагі на захапленне Альгерда гадоўляю коней, факт наяўнасці на тэрыторыі былой фабрычнай асады, на прыгорку за так званым Першым ручаём, рэштак падмурку стайні (фота 5). Такое



[12] Імёны пранумараваныя М. Задорам-Цішэўскім дзеля зручнасці падачы фактычнага матэрыялу. Імя Віктар стала спадчынным імем Святаполк-Мірскіх пасля першага ўладальніка гэтага роду Тамаша (1788–1852).

[13] Дата пададзеная паводле звестак М. Задоры-Цішэўскага і Вялікай генеалогіі Мінакоўскага. Паводле іншых крыніц дата нараджэння – 1850 г.

меркаванне, аднак, нельга лічыць слушным, бо звесткі пра паперню (млын) фігуруюць ужо ў выданні поўнага спіса населеных пунктаў Віцебскай губерні І. І. Гашкевіча 1905 года, і Альгерду на той час было толькі 15 год.

М. Задора-Цішэўскі называе фабрыку паперняй (фота 3). Паперняй (Międzyrzecz Pap.) названая яна і на мапе польскага Вайсковага геаграфічнага інстытута 1932 года (фота 5а). Што больш дакладна, чым, напрыклад, кардонная фабрыка, бо прадпрыемства выраблялa не толькі кардон, але і паперу для ўпакоўкі.

У якасці сыравіны на фабрыцы выкарыстоўвалася як мясцовая асіна, так і прывезеная або прыгнаная па рацэ бёрнамі даўжынёю да трох метраў з ваколіц вёсак Рачнёва, Павяцце і іншых населеных пунктаў. Паводле звестак у Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства[14], рака Вята, сярэдняя глыбіня якой пры шырыне крыху больш за 2 сажні (4 метры) не дасягала 1 метра (гэткая ж лічба – у пераліку на футы[15] – падаецца і Аляксеем Сапуновым[16]




Фота 5а. Фрагмент мапы Вайсковага геаграфічнага інстытута 1932 г.

[14] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – Warszawa, 1880–1914. – T. XIII. – S. 269.
[15] 1 фут = 0, 3048 м; 1 сажань = 2,13 м.
[16] Сапуноў Аляксей Парфенавіч (1851, паводле іншых крыніц 1852–1924) – вядомы віцебскі гісторык, археограф, краязнавец.



Фота 6. Выгляд месца з боку ракі. На першым плане – будынак электрастанцыі (фабрыкі, млына) з трыма вокнамі па даўжыні тарца, шырокімі дзвярамі тэхнічнага прызначэння з боку Чырвонай гары і замураванымі вокнамі ўверсе над імі. Справа – абрысы плаціны з мостам. : Пры канцы каменнага адгалінавання ад муру плаціны да ўвахода ў будынак прадпрыемства з боку дарогі – купка людзей. За будынкам электрастанцыі – хата. Каля 1957 г. Са збору А. Альхімовіча

у выданні “Река Западная Двина”), судаходнай не з’яўлялася. Але ж для рэгулявання ўзроўню вады пры папернях і млынах меліся плаціны з шлюзамі (або проста – зáстаўкамі[17]), што не толькі здымала праблему плытагонства, але і дазваляла выкарыстанне мясцовым насельніцтвам чоўнаў пры сезонным лове рыбы. Што яно і рабіла на Вяце нават праз дзесяцігоддзі, напрыклад, на пачатку 1960-х.

Каму б ні належала задума пабудаваць фабрыку, яе праект быў дасканала прадуманы ў адпаведнасці з асаблівасцямі мясцовага рэльефу. Кажучы сучаснаю моваю, гэта меў быць вытворчы комплекс, які адмыслова ўзводзіўся на згібе ракі ў месцы найбольшага перападу ўзроўню яе рэчышча. Мэтаю менавіта такога размяшчэння было забеспячэнне аптымальнага спосабу падачы вады на турбіну (на той час яшчэ, магчыма, – на вадзяное кола). Дзеля чаго на асноўным стоку ракі (на натуральным яе рэчышчы) была ўзведзена плаціна з застаўкамі, а за некалькі метраў ад яго пракапаны канал з гэткімі ж, толькі меншага памеру, застаўкамі. Іншымі словамі – з’явілася пара шлюзаў для рэгулявання падачы вады на турбіну: вялікі (на плаціне асноўнага стоку – для рэгулявання ўзроўню вады ў млынавым віры-вадасховішчы) і малы (на канале для рэгулявання падачы вады непасрэдна на турбіну).

Крыты шчапою[18] будынак фабрыкі на тры акны па даўжыні тарца з боку ракі (фота 6) месціўся на ўзроўні ніжняй часткі перападу рэчышча, так што ніз яго закота[19] знаходзіўся амаль на ўзроўні мастка канала (фота 7), накрытага дзеля засцярогі ад засмечвання рашоткаю. Будынак, хаця і здаваўся знешне, як бачна на здымках (фота 6, фота 8), аднапавярховым, па сутнасці быў двухпавярховым з двума ўваходамі.

Уваход ад дарогі праз дзверы ў закоце (фота 14б), дзякуючы размяшчэнню фабрыкі значна ніжэй дарогі, а падмуркам толькі ледзь-ледзь вышэй узроўню рэчышча ракі пасля плаціны, вёў адразу на другі паверх. Гэта было вольнае ад прамысловага начыння невысокае паддашкавае памяшканне, якое выкарыстоўвалася ў якасці каморы і напрыканцы якога драўляная лесвіца вяла на дол, у так званую машынную залу, дзе з правай сцяны выходзіў з ніжняй часткі канала вал турбіны. Пры неабходнасці пачынаць працу сток канала вызваляўся ад заставак, сістэма прыводзілася ў дзеянне.

[17] Застаўка – шчыт для затрымання вады.
[18] Шчапа (разм.) – тое, што і дранка – тонкія дошчачкі для крыцця даху або для абівання сцен пад тынкоўку.
[19] Закот – франтон.

Фота 8. Будынак фабрыкі (млына, электрастанцыі)
з уваходам і двума замураванымі вокнамі ўверсе.
Выгляд з боку Чырвонай гары.
Фрагмент здымка фабрычнага пасялення. Каля 1965 г.
Са збору А. Альхімовіча




Фота 7. Ніз закота будынка зачыненай электрастанцыі (3) – на ўзроўні мастка канала падачы вады на турбіну (2) і парэнчаў моста над плацінаю (1).
Здымак 1973 г. са збору І. Аўсюкевіча, які ў перапынку паміж студэнцкімі клопатамі прыехаў адведаць родныя мясціны





Фота 8а. Чырвоная гара з вірам ля ўзножжа. Каля 1960 г.
Са збору А. Альхімовіча

Фота 9. Муры плаціны і мост з парэнчамі над ёю.
З моста край не зарослай на той час хмызам гары быў добра бачны.
1956 г. Здымак А. Аўсюкевіча. Са збору А. Альхімовіча





Фота 10. Плаціна.
Яшчэ з мостам ды парэнчамі і не разбураным трохкутнікам з муру і адгалінавання. Каля 1972 г. Са збору І. Аўсюкевіча

“Адпрацаваная” вада затым вярталася паралельным рацэ ручаём у Вяту, пры гэтым адлегласць паміж ракою і ручаём ад фабрыкі да кропкі зліцця іх водаў утварала паўвыспу. Другі ўваход у фабрыку з двума вокнамі ўгары па-над ім (фота 8) знаходзіўся з тыльнага боку будынка, з боку абрывістай, стромай гліністай Чырвонай гары (фота 8а, фота 22) на супрацьлеглым беразе ракі. У часы дзейнічання гідраэлектрастанцыі ён з-за запруджанасці падыходу да яго вадою не выкарыстоўваўся.

Плаціна месцілася за лічаныя метры ад фабрыкі і была абкладзеная па берагах унушальнымі каменна-бетоннымі мурамі (фота 9). Наверсе муры ўмацоўваліся дзеля засцярогі збудавання ад уздзеяння стыхіі, напрыклад, разбурэння падчас паводкаў, адгалінаваннямі ўбакі і ўгору, так што паверхні муроў разам з імі ўтваралі па адзін і другі бакі плаціны трохкутнікі (фота 10, фота 14, фота 14в). (Пра сістэму папярэджання рэзруху плаціны падчас веснавых паводкаў у паваенным часе – ніжэй, у частцы апісання працы гідраэлектрастанцыі.)

Па-над плацінаю быў перакінуты праз сярэдзінную апору ад аднаго берага да другога драўляны мост з парэнчамі (фота 9, фота 14в). Зладаваны з бэлек, жардзін і дошак на жалезных рэйках, ён дзякуючы каменнай апоры, змацаванай асаблівым трывалым растворам бетону, уяўляў даволі надзейную канструкцыю і, нягледзячы на ўяўную знешнюю хісткасць, вытрымліваў вагу не толькі нагружаных зернем ці мукою або сенам падводаў (фота 11), але – ужо ў савецкія часы – і буйную тэхніку кшталту не толькі аўто, але нават трактароў з прычэпамі. Дзякуючы высокай шчыльнасці насельніцтва ваколіц і адсутнасці паблізу іншых пераправаў рух праз мост быў даволі інтэнсіўны.

Увосень або ўвесну, калі праз раку дзесьці ў іншым месцы нельга было перабрысці або перайсці па лёдзе, мост над плацінаю заставаўся адзіным варыянтам пераправы на другі бераг для дзяцей тутэйшых суромскіх хутароў (фота 11а, фота 11б) па дарозе ў пачатковую школу ў вёсцы Міжрэчча, а для юнакоў і дзяўчат з хутароў процілеглага берага ракі па яе сканчэнні – па дарозе ў васьмігодку ў вёсцы Мілашова; для моладзі, што вучылася ў дзесяцігодцы ў Мёрах, або для людзей з нейкім клопатам у райцэнтры – да аўтобуснага прыпынку ў Ідоўце.



Фота 11. Сані з сенам з'язджаюць з моста ў накірунку хутароў вёскі Суромшчыны. Каля 1966 г. Здымак А. Аўсюкевіча. Са збору А. Альхімовіча

Ад самага пачатку існавання фабрыка, як і, напрыклад, гэткая ж у Аблятове[20] за тры з паловаю кіламетры адсюль вышэй, супраць цячэння ракі, з'яўлялася шматпрофільнай. Зразумела, тут найперш мелася начынне для вытворчасці паперы. Драўніна рэзалася, трушчылася, малолася, прасавалася, сушылася, гатовая прадукцыя адпраўлялася затым, паводле адных крыніц, пад цягнік у Друю для наступнай адпраўкі ў Вільню, паводле другіх – на пераkладных падводах у Рыгу за прыкладна 350 кіламетраў[21].

Для высушвання пластоў кардону меліся дзве сушарні – верхняя і дольная (ніжняя). Абедзве былі разбураныя падчас моцнага 20-хвіліннага градабою 1939 года. Градабойны фронт насунуўся тады на мясцовасць сямікіламетроваю паласой і шмат нарабіў у наваколлі бяды: пабіў палеткі, пашкодзіў пабудовы, скалечыў жывёлу і птушак. Каб не пакінуць насельніцтва налета без насеннага збожжа, улады арганізавалі дастаўку ў Друю для пацярпелых некалькі яго вагонаў.

[20] Аблятова – вёска і двор спачатку Марціноўскіх, затым – Абранпальскіх, месцазнаходжанне фабрыкі па вырабе паперы з асіны, пазней – млына.
[21] Звесткі паводле расповедаў Антона Пупіна і Аліка Альхімовіча.



Фота 11а. Сёстры Оля і Юля Блажэвічы, жыхаркі хутара паблізу пасялення, вучаніцы Міжрэчанскай пачатковай школы. 1963 г. Са збору Ю. Блажэвіч

Фота 11б. Стрыечныя браты Алік Альхімовіч і Янак Аўсюкевіч, пазней – вучні Міжрэчанскай пачатковай школы, ля шчытка ў хаце Аўсюкевічаў пры гідраэлектрастанцыі. Каля 1957 г. Са збору І. Аўсюкевіча



Паралельна з апрацоўкаю драўніны асобнае начынне выкарыстоўвалася на паперні і для памолу зерня, і для апрацоўкі воўны. Што дало магчымасць пазней без цяжкасці пераабсталяваць прадпрыемства на выключна мукамольнае, паслугамі якога карысталася да сярэдзіны 1940-х гадоў (у вайну млын такасама працаваў) не толькі насельніцтва прылеглых вёсак і хутароў, але прывозілі пытляваць, вальцаваць, малоць зерне з-за Дзвіны жыхары суседняе Латвіі. Па зачыненні млына ў асадзе, наадварот, тутэйшыя сяляне пачалі вазіць малоць зерне і парадкаваць (часаць) воўну спачатку ў млын у Аблятова, а па зачыненні млыноў у Аблятове і Сташулях часаць ці абменьваць яе на гатовыя ніткі або валёнкі ў Латвію, у Варнавічы ля Краславы.

Існуе не пацверджанае дакументальна меркаванне, што будынкі паперні і млына і пазнейшай гідраэлектрастанцыі – не адно і тое. Сведчанне слушнасці такога прыпушчання – наяўнасць пры будынку гідраэлектрастанцыі руінаў (фота 25а) ці то гаспадарчай, ці то пра-

мысловай пабудовы, на частцы рэштkaў фундамента якой яна і ўзведзена, і наяўнасць на тых руінах млынавога начыння, напрыклад, вялікіх жорнаў. Зрэшты, калі нават будынкі – адно і тое, верагоднасці таго, што на месцы будынка паперні і млына пачатку XX стагоддзя (пазней – гідраэлектрастанцыі) калісьці магло месціцца нешта больш старадаўняе, гэта не выключае.

А вось што выключае элементы праўдзівасці пра мясціну ды ліе ваду на млын аблуднага ўяўлення пра яе, дык гэта допісы ў сродках масавай інфармацыі пра тое, што плаціна быццам бы была ўзведзена непасрэдна напярэдадні пуску гідраэлектрастанцыі, а сама гідраэлектрастанцыя – быццам бы адначасова з паперняй ці млынам дзеля аптымізацыі іх працы. Паперня, млын, у працы якіх выкарыстоўвалася выключна энергія вады, і гідраэлектрастанцыя – розныя паводле прызначэння гаспадарчыя адзінкі, гаспадарамі якіх да таго ж з'яўляліся асобы (ці групы асобаў) розных формаў уласнасці. Асабліва недарэчнымі выглядаюць разважанні пра нейкі быццам бы наяўны антаганізм паміж інтарэсамі тых асобаў ці груп у савецкія, калі ўсё было агульнае, часы.

Як і пры кожным вадзяным прадпрыемстве такога кшталту, пры паперні меўся згаданы раней так званы млынавы вір (фота 12). Ён месціўся паперадзе плаціны і, выконваючы ролю вадасховішча, з'яўляўся адным з самых глыбокіх месцаў на рацэ. Калі ў вёсцы Міжрэчча на пачатку 1960-х гадоў была ўзведзеная на рацэ Вяце земляная дамба[22] і рака зусім абмялела, тут, у млынавым віры, шукала паратунку апошняя, што стала лёгкаю здабычай для аматараў лоўлі, рыба. Калі падчас працы паперні (млына, электрастанцыі) галоўны сток ракі перакрываўся, вада ў віры разлівалася і ён нагадваў маленькае возера (фота 13).

Наогул, рыбы пры фабрыцы і паблізу яе даўней было шмат. Язі, шчупакі, ментузы, плоткі, ліні, іншыя прадстаўнікі рачной фаўны камфортна пачуваліся ў чыстай, не спаскуджанай да часу гноем з пастаўнікоў ды свінарнікаў вадзе. Раз-пораз мільгалі ў прагалах сям-там паміж звілістымі пукамі ціны гэткімі ж звілістымі стужкамі вугры (мясц. – угорычы). Было шмат ракаў. Чародкі курмялёў корпаліся пры беразе ў глеі ў чаканні моманту, калі ступіць у ваду нага дарослага ці дзіцяці, каб тут жа абляпіць яе ды пачаць навыперадкі казытаць.

[22] Дамба была ўзведзена ў вёсцы Міжрэчча ў самым вузкім месцы ракі Вяты, ніжэй так званай Прыстані пры колішняй лазні Святаполк-Мірскіх (Аскеркаў) і праіснавала некалькі год, моцна нашкодзіўшы рачной і прырэчнай флоры і фаўне, у прыватнасці зараснікам аеру, які выкарыстоўваўся мясцовымі гаспадаркамі ў якасці закладнога матэрыялу для сіласу, і норам ды хаткам андатраў і баброў.



Фота 12. Млынавы вір з трамплінам для ныраннія.
Сучасны выгляд (2022 г.). Крыніца: poshyk.info



Фота 13. Разліў віру-вадасховішча пры гідраэлектрастанцыі. 1956 г.
Здымак А. Аўсюкевіча

На затопленай вадою дольнай пліце понізу плаціны хараша лавіліся акуні. Седзячы на выступе муру (фота 14в), вудзіць можна было нават без паплаўка: у тоўшчы празрыстай вады паляванне рачных прыгажуноў за прынадаю ў выглядзе чарвяка на зазубе ці чагосьці іншага бачнае было як на далоні.

Шматпрофільнасць фабрыкі патрабавала каманды работнікаў. Вынікам чаго стала ўзнікненне пры ёй згаданага вышэй фабрычнага пасялення з сістэмаю дапаможных будынкаў. Тэрыторыя фабрыкі ўяўляла комплекс з трох галоўных аб'ектаў (фота 14): уласна фабрыкі, плаціны і хаты, падзеленай шырокім калідорам на два канцы, адзін з якіх служыў, відаць, жытлом для гаспадара, другі – для работнікаў прадпрыемства і хатняй абслугі, пазней, пры пераабсталяванні на млын, магчыма, з увагі на тое, што ахвотных малоць збожжа было шмат і ўтвараліся чэргі, – і кароткачасовым прыстанкам для завознікаў[23]. Экстэр'ерам хата, крытая, як і будынак фабрыкі, шчапою, нагадвала старасвецкую сядзібу з адкрытым ганкам, калонамі і лавамі па баках і двума вокнамі злева і справа ад ганка (фота 15).

Апроч названых меліся на тэрыторыі фабрычнага пасялення і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Адна з іх – згаданы вышэй будынак стайні за Першым ручаём, дзе цяпер застаўся толькі насып. Пры спуску з пагоркаў да фабрыкі па абодва бакі ракі была пакладзена брукаванка. Наўзбоч яе, на тым жа баку дарогі, што і хата, метраў за 30 ад яе, пры пад'ёме на ўзгорак меліся два скляпы (пограбы) – заглыбленыя ў зямлю збудаванні для захоўвання ўзімку гародніны. Падчас працы элетрастанцыі адзін з іх належаў сям'і інжынера-электрыка Анатоля Аўсюкевіча, другі – сям'і яго сваяка Янкі Альхімовіча.

Станам на 1905 год у фабрычнай асадзе Міжрэчча было 6 жыхароў. Паводле мапы Вайсковага геаграфічнага інстытута 1932 года (фота 5а) – 4 хаты, паводле пераліку мясцовасцяў Рэчы Паспалітай 1938 года (толькі ўжо не пры паперні, а пры млыне) – 4 хаты і 7 жыхароў. А вось згодна з пералікам 1921 года ў асадзе было 5 хат і – ні многа ні мала – ажно 50 жыхароў.

Адносна колькасці жыхароў разыходжанне істотнае, і звязанае яно хутчэй за ўсё з апісанаю вышэй блытанінай у вызначэнні назвы месца. Якою грашыць не толькі М. Задора-Цішэўскі, называючы яго Устжэжам, але, як адзначалася ўжо, і складальнікі пагаспадаркавых кніг мясцовасці 1949–1951 гадоў, падаючы, напрыклад, сям'ю Станіслава і Альжбеты Анашкаў,

[23] Завознік – той, хто прывозіў збожжа ў млын.



Фота 14. Агульны выгляд пасялення Фабрыка Міжрэчча. Каля 1965 г.
Дэбютны здымак Янака Аўсюкевіча, зроблены з вяршыні Чырвонае гары. Са збору сям'і Альхімовічаў. Друкуецца ўпершыню



Фота 14а. Агульны выгляд пасялення Фабрыка Міжрэчча з узгорка на дарозе ў накірунку вёсак Суромшчына і Пруднікі.
Злева ад моста над плацінаю – будынак былой фабрыкі (электрастанцыі), за ім, праз некалькі метраў ад канала падачы вады на турбіну, – закот хаты.
Справа – млынавы вір. Уверсе злева, на пагорку, – хата і гаспадарчыя пабудовы Станіслава Анашкі. Каля 1973 г. Са збору І. Аўсюкевіча



Фота 14б. Будынак фабрыкі (электрастанцыі) з двума вокнамі абапал увахода з боку дарогі.
Злева – плаціна з па́лямі перад ёю, метраў за сто ад яе – Чырвоная гара.
Здымак зроблены з процілеглага берага млынавога віру. Каля 1973 г. Са збору І. Аўсюкевіча



Фота 14в. Выгляд плаціны з мостам і трохкутнікамі з мuроў і адгалінаванняў. Каля 1973 г. Са збору І. Аўсюкевіча



Фота 15. Інжынер-электрык Міжрэчанскай гідраэлектрастанцыі Анатоль Аўсюкевіч з жонкаю Кацярынай і сынам Янакам ля хаты за хвіліну да выправы на другі бераг ракі. Каля 1959 г. Са збору І. Варанцовай

адвеку прыпісаную паводле іх сямейных дакументаў, у тым ліку пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей, да пасялення Міжрэчча (фота 4), чамусьці да Устжэжа (у запісе па-руску – Устреже). Магло стацца і так, што да жыхароў пасялення далучалі ў спісах і жыхароў уласна маёнтка (і вёскі) Міжрэчча. Пра колькасць жа жыхароў у пасяленні на падставе спіса тутэйшых парафіянаў Ідоўтаўскага касцёла 1928–1930 гадоў наогул меркаваць не выпадае, бо сярод работнікаў млына маглі быць не толькі каталікі, але і асобы іншых веравызнанняў, і атэісты.

Хапае так званых белых плямаў і ў звестках пра ўладальнікаў фабрыкі і млына. У большасці спісаў гаспадарак мясцовасці розных часоў і крыніц, такіх, напрыклад, як выданне І. І. Гашкевіча "Віцебская губерня: поўны спіс населеных месцаў са статыстычнымі дадзенымі пра кожнае паселішча" 1905 года, яны падаюцца як уласнасць Святаполк-Мірскіх.

А вось М. Задора-Цішэўскі, які ў нататках пра пачатак сваёй працы ў маёнтку Міжрэчча і фальварку Навіна[24] па пераездзе сюды на сталае жыхарства з Польшчы ў 1921 годзе (праз паўтара дзясятка год па часе, які фіксуецца ў выданні Гашкевіча) піша: "Уладальнікам паперні і млына ва Устжэжы быў стары кавалер ex Arkon[25] Уладыслаў Козел-Паклеўскі..." (фота 2, фота 3). Што з увагі на тое, што акурат гэтак звалі бацьку тадышняй гаспадыні Устжэжа, удавы Віктара II Святаполк-Мірскага Тэрэсы Марыі з роду Козел-Паклеўскіх, было б не дзіўна, калі б не меў месца недахоп звестак пра асобу названага М. Задорам-Цішэўскім уладальніка, былога студэнта факультэта гандлю (камерцыі) Рыжскага палітэха[26].

Да таго ж, мяркуючы па спісе вернікаў каталіцкага веравызнання Фабрыкі Міжрэчча ў метрычнай кнізе Ідоўтаўскага касцёла 1928–1930 гадоў, гэты чалавек, поўны цёзка бацькі 58-гадовай Тэрэсы Марыі (1870–?), паводле ўзросту (яму – 65 год) яе бацькам быць не можа. Ды і памёр бацька Тэрэсы, калі даваць веры Вялікай генеалогіі Мінакоўскага[27], яшчэ ажно ў 1889 годзе. Што не толькі само пытанне пра ўладальніка прадпрыемства пакідае адкрытым і ставіць пад сумнеў звесткі Задоры-Цішэўскага, але і адназначна перасоўвае дату пабудовы паперні з пачатку XX стагоддзя як мінімум на апошняе дзесяцігоддзе XIX.

[24] Навіна – фальварак крыху больш за кіламетр ад маёнтка Міжрэчча і прыкладна за кіламетр ад Фабрыкі Міжрэчча, у накірунку вёскі Чамяры. Яго арандавала па пераездзе на сталае жыццё на Дзісеншчыну сям'я Задораў-Цішэўскіх. У паваенным часе месцажыхарства насельнікаў Навіны падавалася як Навінкі.
[25] Ex Arkon – былы сябра карпарацыі польскіх студэнтаў "Arkonia", створанай у 1879 г. пры Рыжскім палітэху. Сябрам карпарацыі з'яўляўся і Віктар II Святаполк-Мірскі, які, паводле адраснай кнігі былых выхаванцаў навучальнай установы 1905 г., вучыўся там жа на хіміка-тэхналагічным факультэце.
[26] Рыжскі палітэх – старэйшая вышэйшая навучальная ўстанова Латвіі. Адчынена ў 1862 г. Цяпер Рыжскі тэхнічны ўніверсітэт.
[27] Вялікая генеалогія Мінакоўскага – генеалагічная база нашчадкаў дэпутатаў Вялікага Сойму Рэчы Паспалітай.

Хто насамрэч гэты згаданы ў парафіяльным спісе 1928–1930 гадоў Уладыслаў, пра якога вядома толькі, што вучыўся ён у Рыжскім палітэху? У той жа Вялікай генеалогіі Мінакоўскага маецца яшчэ адзін цёзка Тэрэсінага бацькі сваяцкай лініі паходжання, прыкладна яе равеснік – Уладыслаў Францішак Козел-Паклеўскі (1862–1938). Не надта багата звестак, ды, зрэшты, вось, напэўна, і прастора для пільных пошукаў прадстаўнікам маладзейшай генерацыі мёрскіх краязнаўцаў.

На пачатку сваёй працоўнай дзейнасці працаю млына па сканчэнні ў 1932 годзе Друйскай гімназіі імя С. Баторыя[28] кіраваў ураджэнец вёскі Бабарыкі[29], пазней – загадчык Міжрэчанскай пачатковай школы[30] Антон Пупін. Паводле яго расповеду, запісанага аўтарам у 1982 годзе, заробак кожнага з работнікаў млына складаў тады каля 30–40 польскіх злотых, на якія ў той час можна было купіць каля 20 пудоў хлеба.

А каму ж належаў на той час млын? І хто кіраваў яго працаю ў час Другой сусветнай вайны і пасля яе, да пары адкрыцця ў 1947 годзе на яго месцы гідраэлектрастанцыі? Адказы на гэтыя пытанні, таксама, на жаль, хаця яны і ахопліваюць не так аддалены ад дня сённяшняга час, аказаліся не такімі простымі.

Згодна з растыражаванымі сродкамі масавай інфармацыі звесткамі паводле расповедаў некаторых тутэйшых жыхароў, апошнім ці то ўладальнікам, ці то кіраўніком працы млына з'яўляўся селянін па прозвішчы Казлоўскі. Аднак ці сапраўды гэта быў Казлоўскі, а не ўсё той жа згаданы вышэй Уладыслаў Козел-Паклеўскі, якому млын належаў паводле спіса 1938 года ды згадкі ў кнізе М. Задоры-Цішэўскага і падвойнае прозвішча якога дасціпныя тубыльцы ўпаўне маглі перарабіць на прасцейшае аднакаранёвае, больш зручнае ў вымаўленні, – сёння спраўдзіць складана.

У 1995 годзе вёску Сташулі[31], радзіму сваіх прашчураў, наведаў нехта К. Казлоўскі – грамадзянін Польшчы, унук колішняга ўладальніка сташулёўскага млына Антона Судніцкага, які ў сярэдзіне 1960-х гадоў з'ехаў з сям'ёю спачатку ў Друю, а затым з Друі ў Польшчу. Але ці мелі продкі гэтага чалавека нейкае дачыненне да міжрэчанскага млына, уласнікам якога быццам бы з'яўляўся яго цёзка па прозвішчы, – невядома. Як і невядома, ці меў да яго дачыненне згаданы ў 1982 годзе Антонам Пупіным у размове з аўтарам афіцэр Казлоўскі з Будслава. Відавочна, дапамагчы здабыць ісціну могуць архіўныя дакументы.

[28] Друйская гімназія імя С. Баторыя – навучальная ўстанова пры кляштары айцоў-марыянаў. Заснаваная ў 1924 г. (паводле іншых звестак – у 1923).
[29] Бабарыкі – вёска за 2 кіламетры ад Фабрыкі Міжрэчча.
[30] Міжрэчанская пачатковая школа. Напярэдадні Другой сусветнай вайны і ў час яе месцілася ў сядзібным доме Святаполк-Мірскіх (Аскеркаў). Ад канца 1950- х гг. – у будынку, узведзеным з перавезенай у вёску Міжрэчча з вёскі Сташулі хаты млынара Антона Судніцкага.
[31] Сташулі – вёска за 2 кіламетры ад Фабрыкі Міжрэчча, вышэй па цячэнні ракі Вяты.

Заключная фаза выкарыстання чалавекам патэнцыялу воднае стыхіі ў фабрычным пасяленні Міжрэчча – гідраэлектрастанцыя. Яна распачала працу ў 1947 годзе. Называлася яна афіцыйна Міжрэчанскай і ўжо ў наступным, 1948 годзе выпрацавала разам з Мёрскай станцыяй 45300 кВт/гадзін электраэнергіі. Прадпрыемства адразу ж стала прыцягальнаю кропкай для наладжвання экскурсій школьнікаў. Напрыклад, у нумары за 10 красавіка 1952 года мёрскай раённай газеты "Большэвіцкая трыбуна"[32] змешчаны допіс вучняў Чурылаўскай сямігодкі (маецца на ўвазе Чурылава Дальняе) з тыповымі тутэйшымі прозвішчамі Варонька і Мяніцкі пра наведанне электрастанцыі і карысць ад такога мерапрыемства у засваенні школьнікамі курсу фізікі (фота 16).

На прадпрыемстве пачынаў працоўны шлях электраманцёрам, затым стаў машыністам-турбіністам яго будучы кіраўнік – інжынер-электрык Анатоль Аўсюкевіч[33]. Прыйшоўшы на станцыю ў 25-гадовым узросце ў 1950 годзе, па дэмабілізацыі з войска, ён працаваў тут да яе закрыцця ў 1961-м і жыў з жонкаю Кацярынай і дзецьмі Янакам і Ірынаю ў хаце пры станцыі (фота 15, фота 17, фота 18, фота 19, фота 20). На той час толькі левая частка хаты (з боку будынка станцыі) была жылой і складалася з калідора, двух пакояў, кухні і лазні, дзе руплівы гаспадар абсталяваў фоталабараторыю. Дзякуючы цікавасці мужчыны да фотасправы і наяўнасці ў яго папулярнага на той час фотаапарата "Фотакар-1" мы маем сёння магчымасць убачыць, якім было тады фабрычнае пасяленне.

У правай частцы будынка знаходзіліся памяшканні (хлеў) для свойскай жывёлы і захоўвання фуражу, прыбіральня. У жылыя памяшканні меліся з двара два ўваходы. У хлеў, апроч увахода з двара, можна было трапіць праз калідор і наўпрост з хаты.



**Экскурсія на электрастанцыю**

Яшчэ ў другой чвэрці навучальнага года мы пачалі вывучаць раздзел фізікі электрычнасць. Мы пазнаёміліся з генератарамі пастаяннага і пераменнага току, з прыборамі, якімі вымяраецца сіла току і напружанне. Каб замацаваць набытыя тэарэтычныя веды, выкладчыца фізікі Марыя Андрэеўна Запольская арганізавала экскурсію вучняў на электрастанцыю, якая знаходзіцца непадалёку ад нашай школы.

На электрастанцыі мы з цікавасцю разглядалі генератар пастаяннага і пераменнага току, раменныя перадачы, пры дапамозе якіх генератар злучан з турбінай і іншае.

Экскурсія прайшла вельмі цікава. Набытыя веды па тэме „Электрычнасць" мы замацавалі на практыцы.

**З. Варонька, Л. Меніцкі,**
вучні Чурылаўскай сямігадовай школы.

Фота 16. Допіс пра наведанне школьнікамі электрастанцыі ў газеце "Большэвіцкая трыбуна" за 10 красавіка 1952 г.

[32] "Большэвіцкая трыбуна" – назва пададзена паводле тагачаснага правапісу.
[33] Аўсюкевіч Анатоль Пятровіч (1925–1973) – інжынер-электрык Міжрэчанскай гідраэлектрастанцыі ў 1950–1961 гг. Па закрыцці прадпрыемства працаваў у Мёрах, Дрысвятах, Шаркаўшчыне, да сыходу з жыцця ў 1973 г. – начальнікам электрасетак у Паставах.



Фота 17. Сям'я Аўсюкевічаў. Другая палова 1950-х гг.
Са збору І. Аўсюкевіча

На гарышчы, як і паўсюль у Прывяцці, складвалі на зіму сена, што рабіла жытло ў сцюдзёную пару года цяплейшым. Там жа захоўвалі таксама і некаторыя сцюжаўстойлівыя дары агарода або лесу, напрыклад, арэхі, якіх па абодва берагі ракі Вяты заўсёды было многа.

Канечне, у даэлектрастанцыйныя часы, з увагі, што у адным доме мусілі жыць гаспадары і абслуга, размеркаванне яго памяшканняў паводле ўжытковага прызначэння было іншае, як тады, калі ў ім жыла сям'я Аўсюкевічаў, ды, напэўна, не нашмат. Галоўнае адрозненне, – тое, што раней абодва раздзеленыя калідорам канцы будынка з'яўляліся жылымі, а памяшканні для свойскай жывёлы знаходзіліся асобна ад яго.

Апроч інжынера Анатоля Аўсюкевіча, у штат абслугі гідраэлектрастанцыі ўваходзілі яго жонка Кацярына, муж Кацярынінай сястры Ядзі машыніст-турбініст[34] Янка Альхімовіч, другі турбініст – жыхар вёскі Пруднікі па прозвішчы Аніська і рабочы, мясцовы жыхар Станіслаў (Стась) Анашка (фота 21), бацька колішняга памольшчыка ў млыне Антона (фота 22).

Важным для працы гідраэлектрастанцыі з'яўлялася засцярога ад рызыкі пашкоджання плаціны падчас веснавых паводкаў. Дзеля гэтага пры пачатку млынавога віру меліся паперадзе шлюза тры моцныя дубовыя па́лі. Іх функцыяй было затрымліваць крыгі, не даючы ім дасягнуць плаціны і разбурыць яе. Кожную вясну з наступам ледаходу ў пасяленне прыязджалі падрыўнікі, высвідроўвалі ў лёдзе пры плаціне шурфы, закладвалі ў іх мяхі з толам або іншым выбуховым рэчывам. Нагрувашчанне крохкага падталага лёду ўзрывалася, і ён вольна сплываў праз плаціну, не прынёсшы ёй непапраўнай шкоды.



[34] Машыніст-турбініст, або турбініст – спецыяліст па абслугоўванні турбіны.



Фота 18. У хаце за чытаннем. Анатоль Аўсюкевіч з сынам Янакам. Каля 1957 г. Са збору І. Варанцовай



Фота 19. Уверсе справа: па ад'ездзе сям'і Аўсюкевічаў з пасялення Міжрэчча. Алік Альхімовіч і Іра і Янак Аўсюкевічы з бабуляй Любай ля хаты Альхімовічаў, за некалькі соцень метраў ад плаціны. Каля 1962 г. Са збору І. Аўсюкевіча



Фота 20. Клопаты нежартоўныя. Янак Аўсюкевіч каля хаты за кармленнем індычат. Каля 1955 г. Са збору І. Аўсюкевіча

У інтэрнэце часам можна натыкнуцца на выказванне, што, маўляў, гідраэлектрастанцыя пускалася з мэтаю забяспечыць токам навакольныя паселішчы. Аднак факт застаецца фактам, што, нягледзячы на наяўнасць размешчанай на сутыку трох гаспадарак[35] электрастанцыі, некаторыя вёскі і хутары яе ваколіц, напрыклад, Міжрэчча, пачалі электрыфікавацца толькі бліжэй да сярэдзіны 1960-х гадоў – якраз тады, калі яна працу спыніла.



Фота 22. Былы работнік млына Антон Анашка (сын Станіслава) падчас службы ў войску Каля 1950 г. Са збору Т. Вароньki

Спыненню прадпрыемства папярэднічаў і, відаць, часткова і з'явіўся прычынаю спынення пажар. Ён адбыўся ў другой палове 1950-х гадоў і стаўся прыкрым здарэннем не толькі для інжынера-электрыка, які з'яўляўся на той момант студэнтам аддзялення электрагазіфікацыі завочнага факультэта Ленінградскага сельскагаспадарчага інстытута, і яго сям'і, але і для жыхароў прылеглых паселішчаў.



Фота 21. Былы работнік электрастанцыі Станіслаў Анашка ля сваёй хаты з краязнаўцам В. Ермалёнкам. 1980 г. Са збору В. Ермалёнка

Прычынаю здарэння стала ўзгаранне падшыпнікаў слізгання з-за перагрэву, які адбываецца ў выніку іх нясвоечасовай змазкі. Інжынера засцерагло ад жорсткага пакарання тое, што ён падчас пажару якраз знаходзіўся на экзаменацыйнай сесіі. Як лічаць нашчадкі спецыяліста, пэўную ролю ў змякчэнні пакарання адыгралі і змены ў грамадска-палітычнай атмасферы ў СССР пасля смерці Сталіна.

Пасля пажару былі зробленыя захады па ўзнаўленні працы прадпрыемства, і неўзабаве яно, у многім дзякуючы цяслярскім здольнасцям турбініста Янкі Альхімовіча, зноў запрацавала. Праўда, ненадоўга, бо ў 1961 годзе канчаткова працу спыніла. Што стала для месца пачаткам занядбання і разбурэння.

[35] Трох гаспадарак – калгасаў "Гігант" (да 1958 г. – "1 Мая"), "Светлы шлях" і саўгаса "Мёрскі".

Аднак і па зачыненні электрастанцыі цікавасць насельніцтва да гэтага адзінага ў наваколлі прамысловага прадпрыемства не знікла. Нават настаўнік Антон Пупін, які рэдка браў удзел у арганізаваных жонкаю Марыяй Мікалаеўнай вандроўках для вучняў, не-не ды і выказваў жаданне правесці такую ў былое фабрычнае пасяленне. На памяці аўтара адна з іх адбылася ў 1962 годзе і пакінула на фоне цудоўнай вяснова-летняй прыроды ўражанне рэзруху і неўладкаванасці.

Па закрыцці гідраэлектрастанцыі мясціна пачала спакваля, але няўхільна занепадаць. Хаця хата яшчэ даволі доўга выкарыстоўвалася сям’ёй Альхімовічаў, ва ўласнасць якіх перайшла паводле сваяцкіх узаемадачыненняў з сям’ёй інжынера-электрыка, у гаспадарчых мэтах, а лука пры ёй – у якасці агарода і пожні. З часам хата была разабраная на дровы. Пры разборы пад падлогаю былі знойдзены старадаўнія ружэйныя гільзы – сведкі паляўнічых схільнасцяў кагосьці з даўнейшых гаспадароў фабрыкі (млына).

Будынак электрастанцыі з часам быў разбураны (фота 25). Дыхтоўная цэгла перакачавала ў адзін са скляпоў вёскі за паўдзясятка кіламетраў ад плаціны, генератар і іншае начынне (фота 25б) былі вывезеныя, штосьці – дзеля здабычы каштоўных металаў, штосьці – дзеля задавальнення ўласніцкага свербу. На месцы заставаліся толькі турбіна ды рэшткі сценаў. З часам канал падачы вады на турбіну засмеціўся, сярэдзінная апора моста рухнула. Сам мост, аднак, трымаўся яшчэ даволі доўга.

Першаю з прыфабрычных пасяленняў на правым беразе ракі Вяты, што на сённяшні дзень ператварылася ў вотчыну баброў, знікла сядзіба Альжбеты (памерла ў 1970 годзе[36]) і Станіслава (памёр у 1985 годзе) Анашкаў (фота 14а, фота 21), якая месцілася на ўзгорку пры пад’ездзе да фабрыкі з боку хутара Навінкі і вёскі Александрыны.

Апошнім бліжэйшым да былое асады хутарам на гэтым жа баку ракі, метраў за 350–400 ад яе ў накірунку вёскі Чамяры, доўгі час заставаўся хутар стрыечнага Стасевага брата Чэслава (памёр у 1997 годзе) і Тамары (памерла ў 2002 годзе) Анашкаў.

На левым беразе ракі першым знік хутар Ядвігі (Ядзі, памерла ў 2003 годзе) і Янкі (памёр у 2004 годзе ) Альхімовічаў (фота 23, 26). Следам за ім спусцеў хутар  Віталя (Віталюся, памёр у 1993 годзе) і Станіславы (Стасі, памерла ў 2007 годзе) Блажэвічаў (фота 24). Абодва тэрытарыяльна адносіліся да вёскі Суромшчыны, адміністрацыйна – да саўгаса “Мёрскі”.



[36] Згодна з запісам у пасведчанні аб смерці, памерла ў вёсцы Вяце, хаця сканала ў той самай хаце ў асадзе Міжрэчча, у якой пражыла па ўзяцці шлюбу ўсё жыццё. Казус здарыўся ў вініку перараcмеркавання прымежных земляў паміж калгасамі.

На сённяшні дзень бліжэйшымі да Фабрыкі Міжрэчча населенымі пунктамі з'яўляюцца: на правым беразе ракі – вёскі Александрына і Вята, на левым – Пруднікі і Суромшчына. Усе яны, апроч хіба што Суромшчыны, – неперспектыўныя, насельніцтва кожнага складае да паўдзясятка чалавек. Тым больш вартае ўхвалы і падтрымкі жаданне людзей маладзейшага веку аднавіць бацькоўскія сядзібы, вярнуцца такім чынам да сваіх каранёў. Як гэта робяць нашчадкі Ядвігі і Янкі Альхімовічаў, жыхары Рыгі, рамантуючы і аднаўляючы хату на тым самым месцы паблізу фабрыкі, дзе яна заўсёды стаяла.



Фота 23. Ядзя і Янка Альхімовічы з сынам і пляменнікам у сваёй хаце паблізу электрастанцыі. 1958 г.



Фота 24. Віталюсь і Стася Блажэвічы ля сваёй хаты паблізу плаціны. 1963 г.

Усеціве можна сустрэць расповеды пра тое, што цяперашні вадаспад у былой асадзе Міжрэчча – адзін з каскада падобных у яе ваколіцах. Гэта не адпавядае рэчаіснасці, недакладнасць узнікла з уяўлення пра каскад як пра множнасць патокаў на розных участках ракі, у той час як маецца на ўвазе форма аднаго патоку, так бы мовіць, яго канфігурацыя.

Вадаспад на Вяце ў Міжрэччы – адзін, ён уяўляе серыю з двух вадаспадаў-уступаў. Раней жа ўступаў наогул было тры, што добра бачна на здымку плаціны 1965 года: кароткія верхні і ніжні, доўгі пасярод (фота 10). Дарэчы, па-італьянску і само запазычанае з французскай мовы слова каскад абазначае вадаспад.



Фота 25. Рэшткі сцяны электрастанцыі. Здымак Д. Росала. 2021 г.



Фота 25а. Адведзіны родных мясцінаў. Злева, на фоне Чырвонай гары, – фрагменты падзіраўленых дахаў электрастанцыі і яе турбіннага аддзялення. Справа – былы жыхар пасялення Іван (Янак) Аўсюкевіч на фрагменце заглыбленай у зямлю знешняй сцяны гаспадарчых будынкаў. Далей, у выглядзе слупоў, – рэшта руінаў старога млына. Каля 1973 г.




Фота 25б. Начынне электрастанцыі па спыненні яе працы:
1 – генератар; 2 – расшчэпленае кола раменнай перадачы для падвышэння хуткасці абаротаў; 3 – адтуліна выхаду вала турбіны;
4 – штурвал павароту лапатак турбіны для рэгулявання падачы вады. Каля 1973 г. Са збору І. Аўсюкевіча

Адна з цікавостак Міжрэчанскага вадаспада – наяўнасць невялікай нішы паміж мурам плаціны і вадзяным патокам крыху менш як на яго палове (фота 27), калі мераць ад боку былога будынка фабрыкі. Утварылася яна, відаць, у выніку вымывання фрагмента вертыкальнай сцяны плаціны і цяпер так і вабіць да сябе аматараў гульні ў хованкі.

Як след сцюцюрыўшыся, ды прыхінуўшыся грудзьмі ці, наадварот, спінаю да аблепленага цінаю і багавіннем муру, ды падкурчыўшы ногі, можна колькі часу заставацца ў схроне нябачным для свету і для да сябе падобных. А калі зрабіць гэта не адзін, а тры разы, і пры гэтым пагукаць упадабаную дзяўчыну, сцвярджае пушчаная ў народ кімсьці з наведнікаў мясціны прыдумка, – яна (дзяўчына) стане тваёй навекі. Так што, маўляў, не толькі ў плане аздараўлення цела можа быць карысць чалавеку ад Міжрэчанскага вадаспада, але і ў плане



Фота 26. Сядзіба Ядзі і Янкі Альхімовічаў.
Мужчына пры ровары – гаспадар хаты турбініст Янка Альхімовіч. Ядзя – першая злева.
Каля 1962 г. Са збору І. Варанцовай (на здымку самая меншая ў групе)



Фота 27. Плаціна. Ужо без моста, але яшчэ пры мурах.
Стрэлкаю пазначана прыблізнае месца знаходжання нішы. Здымак аўтара. 2005 г.

аздараўлення душы, уладкавання, так бы мовіць, асабістага жыцця.

У часы ж функцыявання прадпрыемстваў і нават пэўны час па іх зачыненні тут ніхто не толькі не гуляў у хованкі і не гукаў дзяўчат, а нават не купаўся. Надзвычай прыгожая гэтая, асабліва ў пару цвіцення чаромхі, мясціна, старыя чорна-белыя здымкі хараства якой, на жаль, не перадаюць, так і дыхала вусцішнай таямнічасцю, і ні дзецям, ні тым больш іх ад раніцы да вечара занятым нясконачнаю працаю на калгасных палетках ці на прысядзібных сотках або пры статку бацькам нават у самы спякотны дзень не прыходзіла ў галаву думка лезці пад пругкія струмені.

Гэта цяпер вадаспад – райскі куток для аматараў пакулогацца ў сцюдзёнай вадзе, галоўным чынам – прыезджых. Для колішніх жа жыхароў шматлюдных ваколіц, дзе, напрыклад, толькі на пошукі вольнага кузлака пожні дзе-небудзь сярод кустоўя ў пару летняга сенакосу вунь колькі часу трэба было змарнаваць, уся насалода дабротамі-адметнасцямі мясціны абмяжоўвалася похаплівым сузіраннем плаціны з моста

ці з берагоў, калі-нікалі – гэткім жа похаплівым купаннем дзе-небудзь у глухой рачной западзіне, лоўляю рыбы наўзбоч груды камення ля патоку або ў вірку ля Чырвонай гары (фота 8а) у накірунку Прудніцкага гарадзішча і Дзвіны на наступным пасля плаціны згібе ракі метраў за сто ад яе.

Уякасці прычын заняпаду млыноў і млынарства ў рэгіёне часам называюць стыхійныя бедствы. Такія, напрыклад, як згаданая Аляксеем Сапуновым у працы "Река Западная Двина" паводка на Дзвіне ўвесну 1931 года, калі яе воды пачалі падымацца па прытоках, утвараючы лядовыя заторы, што пашкодзілі, а то і наогул знеслі некаторыя, найперш, канечне, драўляныя, млыны.

Ды, зразумела, толькі гэтым тлумачыць з'яву не выпадае. А ў дачыненні да гідраэлектрастанцыі ў пасяленні Фабрыкі Міжрэчча, як бачна з апісаных вышэй прэвентыўных дзеяў з узрываннем лёду, – не выпадае дакладна. Новыя часы грукаліся ў дзверы, новыя тэхналогіі адваёўвалі месца пад сонцам, і супрацьстаяць ім было і немагчыма, і бессэнсоўна. Іншая справа –захаванне старых будынкаў і ўсяго, што іх атачала, ды гэта ўжо – іншая гісторыя.

Сёння **Фабрыка Міжрэчча**, больш вядомая пад назваю **Міжрэчанскага вадаспада** (Фота 1) – толькі вельмі аддалены напамін пра тое, што тут было яшчэ якіх-небудзь 50 год таму: дыхтоўны, крыху змрачнаваты будынак фабрыкі з трывалейшай чырвона-рудой цэглы, аблямаваная з бакоў магутнымі каменнымі мурамі плаціна пры ім з мостам уверсе; чысцюткая вада, у якой вольна пачуваліся прадстаўнікі мясцовай рачной фаўны. Усюды па надрэччы – пакручастыя сцежкі, пратаптаныя сярод хмызу нагамі руплівых, працавітых аўтахтонаў[37] і іх няўрымслівай, дапытлівай дзятвы і статку. Увесну – квецень, улетку ўранні – густыя туманы, што гайдаюцца па-над вадою і берагам пухнатаю зыбкаю коўдрай. Такой застанецца гэтая мясціна ў памяці тых, каму пашчасціла быць сведкамі яе хараства ў пару першароднае некранутасці.

[37] Аўтахтон – карэнны, спрадвечны жыхар краіны (месца); абарыген.



Фота 28. Спуск да вадаспада ад скрыжавання дарог з вёсак Суромшчына і Пруднікі. Здымак А. Немянёнак. 2020 г.

Навукова-папулярнае выданне

**СІЎКО** Франц Іванавіч

**ФАБРЫКА МІЖРЭЧЧА**
**АД ПАПЕРНІ ДА ВАДАСПАДА**

| | |
|---|---|
| Тэхнічны рэдактар | Г. У. Разбоева |
| Карэктар | Т. У. Образава |
| Камп'ютарны дызайн | А. А. Барышава |

Падпісана ў друк 05.12.2024. Фармат 60x84 $^1/_8$. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 4,65. Ул.-выд. арк. 2,60. Тыраж 55 экз. Заказ 175.

Паліграфічнае выкананне – установа адукацыі
"Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава".

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/255 от 31.03.2014.

Надрукавана на рызографе ўстановы адукацыі
"Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава".
210038, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, 33.